# Голас Радзімы

№ 21 ((2059)
26 мая 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Гэту прывабную жанчыну завуць Ніна МЕЛЬНІКАВА. Яна галоўны аграном калгаса «Перамога» Жыткавіцкага раёна, гаспадаркі невялікай, але вядомай у рэспубліцы. Тут дасягнуты высокія вынікі ў вытворчасці, выдатна працуюць і заможна жывуць людзі. Зразумела, галоўны клопат Ніны Антонаўны — калгасныя палі, але яна знаходзіць час і магчымасць займацца грамадскімі справамі, дзяліцца з іншымі сваім багатым прафесійным вопытам. Сёлета прымала ўдзел у IV Усесаюзным з'ездзе калгаснікаў у Маскве.

[Гутарка з Н. Мельнікавай змешчана на 3-й старонцы].

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# АДКАЗЫ М. С. ГАРБАЧОВА

**НА ПЫТАННІ ГАЗЕТЫ «ВАШЫНГТОН ПОСТ» І ЧАСОПІСА «НЬЮСУІК» БЫЛІ НАДРУКАВАНЫ 23 МАЯ, НАПЯРЭДАДНІ ВІЗІТА ПРЭЗІДЭНТА ЗША РОНАЛЬДА РЭЙГАНА Ў САВЕЦКІ САЮЗ, У ГАЗЕЦЕ «ПРАВДА» І ІНШЫХ ЦЭНТРАЛЬНЫХ ВЫДАННЯХ. НЕАБХОДНАСЦЬ ДЫЯЛОГА ПАМІЖ СССР І ЗША ЯК ПРАЯЎЛЕННЕ НОВАГА ПАЛІТЫЧНАГА МЫСЛЕННЯ, ПЕРСПЕКТЫВЫ ПАГАДНЕННЯ АБ 50-ПРАЦЭНТНЫМ СКАРАЧЭННІ СТРАТЭГІЧНЫХ НАСТУПАЛЬНЫХ УЗБРАЕННЯЎ, ЯДЗЕРНАЯ ПАЛІТЫКА НАТО І ДАКТРЫНА «ЯДЗЕРНАГА СТРЫМЛІВАННЯ», АФГАНІСТАН І РЭГІЯНАЛЬНЫЯ КАНФЛІКТЫ, ПУБЛІЧНАСЦЬ, ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА І НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ Ў НАШАЙ КРАІНЕ — ВОСЬ ГАЛОЎНЫ ЗМЕСТ АДКАЗАЎ.**

Ацэньваючы станоўча маючы адбыцца візіт у нашу краіну Р. Рэйгана, М. С. Гарбачоў падкрэсліў, што дыялог паміж Савецкім Саюзам і Злучанымі Штатамі Амерыкі проста жыццёва неабходны, выходзячы з той вялізнай ролі, якую гэтыя дзве дзяржавы адыгрываюць у сучасным свеце. Дзейнічае ўжо сам факт нашага дыялога, не гаворачы пра яго змест, калі мелі месца такія прынцыпова важныя сумесныя канстатацыі, як тое, што войны недапушчальныя — ні ядзерныя, ні якія іншыя, што праблемы трэба вырашаць палітычным шляхам, што неабходна прызнаваць рэальнасці сучаснага свету.

М. С. Гарбачоў не пагадзіўся з пунктам гледжання, што ядзерная зброя ў апошнія дзесяцігоддзі нібыта спрыяла захаванню стабільнасці ў свеце.

Не раз ужо палемізаваў з прадстаўнікамі Захаду наконт іх довадў: маўляў, не з'явіся ядзерная зброя, не пражылі б мы 40 год без сусветнай вайны. Гэта са сферы меркаванняў. А калі цвяроза ацаніць тую рэальную ролю, якую адыграла так званая «раўнавага страху»? Яна не дала нічога, акрамя небывалай мілітарызацыі знешняй палітыкі, эканомікі, нават духоўнага жыцця. Нанесла шкоду ў сферы міжнароднай маралі і звычаяў, загубіла тую атмасферу давер'я і дружалюбнасці, шчырай цікавасці адзін да аднаго, якая нарадзілася ў савецка-амерыканскіх адносінах у ходзе сумеснай вайны і перамогі над фашызмам.

Перакананы, што ваенна-стратэгічны парытэт можна падтрымліваць на нізкім узроўні — і без ядзернай зброі. Мы свой выбар сфармулявалі ясна: спыніць гонку ўзбраенняў, павярнуць яе назад.

Мірную будучыню чалавецтва могуць гарантаваць не «ядзернае стрымліванне», пад якім маецца на ўвазе захаваць нейкія мінімальныя ядзерныя сілы стрымлівання, а раўнавага розуму і добрай волі, сістэма ўсеабдымнай бяспекі.

Адказваючы на пытанне пра публічнасць і свабоду слова, М. С. Гарбачоў сказаў, што публічнасць і свабода слова, вядома ж, звязаны паміж сабой, але гэта не тоесныя паняцці. Можна сказаць так: свабода слова—гэта неабходная ўмова публічнасці, але публічнасць — больш шырокае паняцце. Мы разумеем яе не толькі як права кожнага грамадзяніна адкрыта выказваць сваю думку па ўсіх грамадскіх і палітычных пытаннях, але і як абавязак кіруючай партыі і ўсіх органаў улады і кіравання захоўваць прынцып адкрытасці ў працэсе прыняцця рашэнняў, адказваць за свае дзеянні, рэагаваць справай на крытыку, улічваць парады і рэкамендацыі, якія прапануюць працоўныя калектывы, грамадскія арганізацыі, асобныя грамадзяне.

У публічнасці, як мы яе разумеем, акцэнт робіцца на стварэнне ўмоў, якія дазваляюць грамадзянам рэальна ўдзельнічаць у абмеркаванні ўсіх спраў краіны, у выпрацоўцы і прыняцці рашэнняў, якія закранаюць інтарэсы грамадства, і кантролі за выкананнем гэтых рашэнняў.

«КРУГЛЫ СТОЛ»

## ЖУРНАЛІСТЫ АБМЕРКАВАЛІ ПРАБЛЕМЫ

**Новымі задумамі і смелымі ідэямі папоўніліся рабочыя блакноты ўдзельнікаў сустрэчы ў Мінску за «круглым сталом» савецкіх і чэхаславацкіх журналістаў. Яна была арганізавана Саюзамі журналістаў ЧССР, СССР і Беларусі.**

**Лейтматывам дыскусіі за «круглым сталом» была роля прэсы ў фарміраванні актыўнай пазіцыі людзей, развіццё працэсу публічнасці і дэмакратызацыі, дзе яшчэ нямала тэм, якія патрабуюць вострых журналісцкіх ацэнак, глыбокіх і аргументаваных вывадаў. Савецкімі ўдзельнікамі сустрэчы, а сярод іх былі вучоныя-грамадазнаўцы, вядучыя супрацоўнікі цэнтральных выданняў, журналісты беларускай прэсы, прыводзіліся такія факты: сёлета агульны разавы тыраж прэсы нашай краіны ўзрос на 17 мільёнаў экземпляраў. Гэта гаворыць аб эфектыўнасці работы сродкаў масавай інфармацыі ў барацьбе за ўсталяванне новага, павароце журналістаў да надзённых інтарэсаў кожнага чалавека.**

**Кіраўнік чэхаславацкай дэлегацыі намеснік галоўнага рэдактара газеты «Рудэ права» Міраслаў Вітак у гутарцы адзначыў: «Усё, што цяпер адбываецца ў вашай краіне, выклікае вельмі шырокую цікавасць у нашых людзей. Тут, у Мінску, ужо прыводзіліся прыклады таго, як перабудова ў СССР рэзка павысіла сацыяльную актыўнасць і ў нас».**

СЯБРОЎСКІЯ СУВЯЗІ



**Мінскія трактаразаводцы прымалі гасцей — калег з Польскай Народнай Рэспублікі. Дзелавыя і сяброўскія сувязі МТЗ і Варшаўскага трактарабудаўнічага завода «Урсус» сталі ўжо добрай традыцыяй. Паміж прадпрыемствамі наладжаны рэгулярны абмен вопытам работы і дэлегацыямі, плануюцца ўзаемныя паездкі сямей завадчан, іх дзяцей на базы адпачынку і ў піянерскія лагеры ў Польшчу і Беларусь.**
**НА ЗДЫМКУ: намеснік старшыні прафкома МТЗ Аляксандр КАНАВАЛАЎ (у цэнтры) знаёміць польскіх сяброў з работай завода.**

ТЭХНАЛОГІЯ

## УЗЯЦЬ У САЮЗНІКІ ВЕЦЕР

**Час гаспадарчаразліковых узаемаадносін, работа па прынцыпу самафінансавання патрабуюць ад кожнага прадпрыемства больш эканамічных тэхналагічных рашэнняў. Бачаць у гэтым сваю ролю і супрацоўнікі беларускага філіяла яшчэ маладога навукова-вытворчага аб'яднання, якое дзейнічае ў Заслаўі.**

**Упершыню ў рэспубліцы вырашана шырока выкарыстаць сілу ветру. Для забеспячэння жывёлагадоўчых ферм вадой, напрыклад, ужо сканструяваны перспектыўныя, эканамічна выгадныя станцыі кіравання ветраэнергетычнымі водапад'ёмнымі ўстаноўкамі. Працуюць яны ў аўтаматычным рэжыме. Кіраванне ажыццяўляецца улікам энергетычных характарыстык ветраагрэгатаў, наяўнасці вады ў свідравіне, яе ёмістасці, іншых параметраў. Мінімальнай энергаёмкасцю ўстановак, вялікай эканамічнай эфектыўнасцю тлумачыцца попыт на яе. Ужо выпушчана 80 такіх станцый. Да канца года іх будзе больш за дзвесце.**

НАВІНЫ КІНЕМАТОГРАФА

## ДЗВЕ ПРЭМ'ЕРЫ

**Дзве прэм'еры ў адзін дзень адбыліся ў Доме кінематаграфістаў. Студыя «Летапіс» «Беларусьфільма» прадставіла новыя навукова-папулярную і дакументальна-хранікальную кароткаметражныя стужкі «Сцэны з жыцця «эліты» і «Урокі».**

**Першая карціна расказвае аб праблемах, якія сёння стаяць перад жывёлагадоўчай галіной рэспублікі.**

**Другая кінастужка ў большасці датычыць маральных бакоў нашага жыцця. Рашэннем урада спынена будаўніцтва Даўгаўпілскай гідраэлектрастанцыі. Але хто кампенсуе сотням людзей маральныя страты, звязаныя з перасяленнем, хто ўзновіць знішчаную прыроду? Гэтыя і яшчэ многія пытанні задаюць стваральнікі фільма.**

АРХЕАЛОГІЯ

## РЭДКАЯ ЗНАХОДКА

**Калі гродзенскі школьнік Міша Пазнякоў і яго сябры прынеслі ў абласны гісторыка-археалагічны музей пакрытыя шматвяковай іржой рэчы, радасная здзіўленне не маглі схаваць не толькі работнікі музея, але і археолагі аб'яднання «Белрэстаўрацыя», якія прыехалі з Мінска. Дзіва што! Знаходкай аказаліся дванаццаць прадметаў баявой амуніцыі коннага воіна, сярод якіх меч, наканечнік кап'я, баявы тапор, асколкі шлема і кальчугі, шпоры, цуглі.**

**Ужо першае знаёмства з прадметамі баявога рыштунку і зброяй, якая аказалася ў добрым стане, пераканала археолагаў, што перад імі вельмі рэдкая і па паўнаце набору, і па ўзросту знаходка. Больш пэўна, што гэтыя рэчы належалі воіну XII—XIII стагоддзяў. Археолагі і работнікі музея агледзелі раён левабярэжжа Нёмана крыху ніжэй горада, дзе дзеці знайшлі ўсё гэта. Астанкаў старажытнага воіна не знайшлі. Магчыма, іх вымыла талай вадой, а магчыма, што пахавання і не было: у той ваенны час зброю не хавалі разам з ратнікам, калі ім не былі вельмі знатны чалавек, а перадавалі наследніку ці каму-небудзь з дружыны. І ўжо тым больш не пакідалі трафеі на полі бітвы. Добрыя даспехі цаніліся вельмі высока. Меч, напрыклад, па сваіму кошту прыраўноўваўся да сярэдняй велічыні статку кароў. Такім чынам, сам факт і акалічнасці знаходкі даюць падставу для розных меркаванняў аматарам старажытнасці, знаўцам гісторыі. Прадметы баявой амуніцыі і ўзбраення патрабуюць стараннага даследавання і рэстаўрацыі.**

ВАЧАМІ АМЕРЫКАНКІ

## *ВОСЬ ТАКОЕ ФОТА...*

**Амерыканка Мэры Тычауд, якая знаходзілася з візітам у Мінску, каля атэля «Юбілейны», у цэнтры сталіцы Беларусі, спаліла адзін з нумароў часопіса «Тайм», што чытала і выпісвала многія гады. Менавіта ў гэтым нумары тэндэнцыйна каменціраваўся фотаальбом «Адзін дзень жыцця Савецкага Саюза», які выйшаў у свет у ЗША.**

Нацыянальны каардынатар арганізацыі «Масты да міру» маці пецярых дзяцей, юрыст з Бостана Мэры Тычауд так растлумачыла свой учынак карэспандэнту ТАСС: «Пасля таго што я даведалася пра жыццё беларускага народа, які асабліва моцна пацярпеў у другой сусветнай вайне, мне сорамна раскрываць «Тайм».

Апошняй кропляй, што падштурхнула Мэры Тычауд на гэтую акцыю, стала публікацыя «Таймам» фатаграфій пародзістых сабак з медалямі, якія былі змешаны як бы «для параўнання» з фатаграфіямі ветэранаў, што прыбылі ў Маскву на ўрачыстасці з нагоды гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Па традыцыі яны надзелі ў свята ордэны і медалі, атрыманыя імі за працу і воінскія подзвігі.

Такія ж медалі Мэры Тычауд убачыла дома ў свайго новага знаёмага з Мінска — Уладзіміра Карызны, паэта і рэдактара выдавецтва «Юнацтва», якое выпускае ў свет казкі і аповесці амерыканскіх пісьменнікаў. Гэта былі медалі яго бацькі, які, хаця і вярнуўся з фронта, неўзабаве памёр ад ран.

— Расказ Уладзіміра Карызны ўзрушыў мяне, — сказала Мэры Тычауд. — У час вайны яму было тры гады. Разам з маці і трыма малодшымі сёстрамі ён быў узяты фашыстамі ў якасці заложніка. Сям'ю зачынілі ў лазні. Малыш плакаў. Фашыст прыкладам прымусіў хлопчыка змоўкнуць (пры гэтым выбіў яму пярэднія зубы). Раніцай усіх зняволеных вёскі сагналі ў балота. Выхад з яго замініравалі.

Я была ва Уладзіміра ў гасцях, бачыла, як свята захоўвае ён бацькоўскія медалі,— працягвала свой расказ Мэры Тычауд.— Цяпер вы ўяўляеце мае пачуцці, калі я ўбачыла такія ж медалі ў часопісе «Тайм» у такім суседстве. Мне сорамна за рэдакцыю паважанага часопіса.

БУДАЎНІЧАЯ ІНДУСТРЫЯ



**У пасёлку Краснае Маладзечанскага раёна пачаў выпускаць свае першыя вырабы новы завод жалезабетонных вырабаў і буйнапанельнага домабудавання. Яго прадукцыя — эфектыўны будаўнічы матэрыял, які вельмі патрэбны спажыўцам, ён дазваляе ўзводзіць дамы рознага тыпу — ад двухпакаёвых да шасціквартэрных.**
**НА ЗДЫМКУ: такія дамы будуюць з жалезабетонных панелей, што выпускае прадпрыемства.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

**ЛЮБАНЬ. Важкі ўклад ва ўмацаванне міру ўносяць жыхары Любаншчыны. Напрыклад, пенсіянерка з райцэнтра Е. Савіна два гады запар кожны месяц пералічвае ў Фонд міру сваю пенсію — 81 рубель. Апаратар машыннага даення з саўгаса «Урэцкі» С. Жаркова ўнесла 180 рублёў, жыхар гарадскога пасёлка Урэчча Л. Васільеў — 200 рублёў. Актыўна ўдзельнічаюць у высакародным руху і працоўныя калектывы. Рабочыя і служачыя камбіната будаўнічых матэрыялаў пералічылі на рахунак міру 5 273 рублі.**

**ЛЕНІНГРАД. У ленінградскім аддзяленні выдавецтва «Советский писатель» выйшла ў свет паэтычная анталогія «Кастрычнік у савецкай паэзіі». У кнізе надрукавана 286 вершаў, больш чым 160 аўтараў, якія прадстаўляюць дваццаць тры нацыянальнасці нашай краіны. Змешчаны тут і творы Якуба Коласа і Максіма Танка ў перакладзе з беларускай мовы.**

**МАГІЛЁЎ. Шырокую папулярнасць у моладзі заваявала новая тканіна «Варна» Магілёўскага аб'яднання шаўковых тканін. Гэта двухслойны матэрыял з непаўторным рысункам «эфекту пацёртасці». Вырабляецца «Варна» з лаўсану і бавоўны. Першы надае матэрыялу трываласць, пругкасць, другая — высокія гігіенічныя уласцівасці. Сёлета прадпрыемства паставіць у гандаль пяцьсот тысяч метраў новай тканіны.**

## *ЯК ІДУЦЬ СПРАВЫ Ў КАЛГАСЕ*

# НЕ ТРЭБА ХЛЕБ ВЫПРОШВАЦЬ

**Нашу гутарку Ніна МЕЛЬНІКАВА пачала з таго, што прыгадала словы, пачутыя ёю, дэлегатам IV з'езда калгаснікаў, у Маскве: «Хлеб трэба не выпрошваць, яго трэба вырошчваць».**

— Гэту даволі афарыстычную фразу сказаў тады Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў. Чаму запомніла? Магчыма, таму, што словы былі сугучныя маім уласным думкам: кожнаму з нас неабходна больш адчуваць асаблівую адказнасць за тое, што атрымлівае краіна да свайго стала, адчуваць сябе гаспадаром справы, зямлі. Нераўнадушнаму чалавеку сэрца ж баліць, што наш, такі вялікі і магутны Савецкі Саюз, вымушаны купляць збожжа за мяжой. Гэта своеасаблівая дыскрэдытацыя селяніна як гаспадара і працаўніка. Як жа так: у краіне з такім вялікім патэнцыялам, такія слабыя вынікі ў сельскай гаспадарцы? Значыць, працуем дрэнна або гаспадарым няўмела?

*— Ніна Антонаўна, такая сітуацыя не ўзнікла ж сама па сабе...*

— Безумоўна. Усе мы жылі апошнім часам у рэжыме каманднa-адміністрацыйным, калі на месцы нельга было самастойна прыняць ніводнага мала-мальскі значнага рашэння. Аб гэтым вельмі многа, з сапраўдным болем гаварылі дэлегаты з трыбуны IV з'езда калгаснікаў. Атрымлівалася так, што служачы з раённай ці абласной установы куды лепей, чым старшыня калгаса ці аграном, ведае, што пасадзіць, дзе пасадзіць, калі і як. І выдае адпаведную каманду ў калгас: рабіць так і так. А паспрабуй паспрачацца, усё роўна са свайго не сыдзе. Дарэчы, і сёння яшчэ можна чуць ад калег скаргі на такі стыль кіраўніцтва. І тры гады перабудовы такім людзям нішто. З уладай развітвацца, як бачым, няпроста.

*— У вас у калгасе, у раёне таксама ёсць падобныя з'явы?*

— Не, на шчасце, нас такая доля мінула. У нас, як гэта і трэба, калгасніку давяраюць. Людзі цяпер адукаваныя. І не толькі ў тым плане, што шмат кніг і газет чытаюць, у кіно ходзяць. Нашы сяляне і высокакваліфікаваныя работнікі. Пагаворыш з механізатарам, жывёлаводам і пераканаешся: такому падказкі і панукванні не патрэбны. Адзін раз, памятаю, пасадзілі па камандзе бульбу ў сырую зямлю. Ураджаю, зразумела, не атрымалі. Тады на агульным сходзе і вырашылі: гэта апошні раз.

Ці вось яшчэ. Даручылі нам адкормліваць бычкоў да пэўнай прамежкавай стадыі, а потым аддаваць у іншую гаспадарку. Нам гэта было нявыгадна, ды і дзяржаве. Сталі дабівацца іншай спецыялізацыі, ад якой будзе эканамічны эфект, а не проста назва. І дабіліся свайго, як самі вырашылі.

*— Людзі зацікаўлены ў сваёй справе. А як яны ставяцца да тых перамен, што ідуць у краіне?*

— Калі я вярнулася з Масквы, са з'езда, пытанням не было канца. І ведаеце, якое з найпершых? Як падтрымліваюць, развіваюць там, «наверсе», перабудову і публічнасць? Усіх хвалюе лёс нашых сённяшніх рэформ і пераўтварэнняў. І гэты клопат пра будучыню не галаслоўны. Ён падмацоўваецца справай, сялянскай працай. Адзін год здарылася так, што наша гаспадарка «Перамога» панесла страты. Памятаю, падыходзіць немалады калгаснік і кажа: «Ніна, ну як жа так атрымалася? Душу гняце». І як страпянуліся, ажылі людзі, калі ўжо ў наступным сезоне мы мелі значныя прыбыткі, калгас стаў мільянерам!

*— Але гэтыя мільёны — калгасныя, нібыта нічыйныя, нікому асабіста не належаць.*

— А ў нас лічаць так: «Будзе ў калгасе, значыць, будзе і ў кожным доме». У гэтым людзі пераконваліся ўжо не адзін раз. Вось толькі невялікі «бытавы» прыклад. Сёлета нашы сяляне сталі ў паўтара раза больш прадаваць у калгас малака ад асабістых кароў. Вырас, значыць, і іх матэрыяльны даход ад падсобнай гаспадаркі. А што ж паслужыла штуршком? Летась калгас змог выдзеліць на асабістыя патрэбы насельніцтву значна больш сена, кармоў для жывёлы. Адсюль — больш малака і большы даход. Дабрабыт кожнага калгасніка непасрэдна залежыць ад эканамічнага патэнцыялу ўсёй гаспадаркі. Атрыманы прыбытак не складваецца ў нейкую таемную скрыню, ён ідзе на сацыяльнае развіццё. Пабудавалі калгасны дзіцячы сад, Дом жывёлавода, заасфальтавалі дарогі і вуліцы ва ўсіх сваіх вёсках. У нас і ў адпачынак вяскоўцы ідуць летам. І выхадныя дні маюць, як усе працоўныя, незалежна ад сезона. Сёлета плануем пабудаваць яшчэ 12 кватэр, і калгасная чарга на жыллё будзе практычна ліквідавана. Зараз сялян ужо больш хвалюе, як лепш абсталяваць сваю сядзібу ці кватэру. Была я ў Латвіі, там закупіла для калгаса кусты руж. Калі іх прывезлі, быў такі пакупніцкі попыт, што яшчэ прыйшлося з[illegible]ваць. Пачулі пра ружы ў сусе[illegible] гаспадарках, дык прыязджалі да нас, маўляў, не забывайцеся пра суседзяў, нам таксама ружы вельмі патрэбны. Вось так жыве цяперашняе Палессе: усім вельмі патрэбны ружы. Дарэчы, у нашым Жыткавіцкім раёне няма ніводна[illegible]ратнай гаспадаркі.

*— Ваш кал[illegible] «Перамога» не мае даўгоў?*

— Зараз мы выплачваем крэдыт дзяржаве. Пазычалі грошы, калі будавалі жывёлагадоўчы комплекс. Тры мільёны ён каштаваў. Але пагашаем пазыку своечасова. Нават наперад робім выплаты, каб хутчэй разлічыцца.

*— Я ведаю, што на Тураўшчыне вельмі ўрадлівыя глебы, мабыць, гэта адна з асноўных прычын гаспадарчага поспеху?*

— Так, глеба ў нас, сапраўды, вельмі добрая. Нядаўна правялі яе меліярацыю. Бал урадлівасці ў нас ад 57 да 62,5. І атрымалі летась амаль па 68 цэнтнераў збожжа з гектара. Дарэчы, у Жыткавіцкім раёне з 19 гаспадарак у васьмі была ўраджайнасць больш за 50 цэнтнераў з гектара. Зямля — вельмі важны фактар, але не галоўны. Да мяне на з'ездзе падыходзіў адзін украінскі старшыня калгаса: «Як гэта Беларусь, у цэлым з небагатай зямлёй, здолела нас, Украіну чарназёмную, абысці?!»

*— Ну, і як жа, на ваш погляд?*

— Дзякуючы цеснай інтэграцыі з навукай. Мы трымаем плённую сувязь з навукоўцамі. Апошнім часам вельмі памацнеў беларускі акадэмічны інстытут земляробства. Выводзяцца новыя сарты сельскагаспадарчых культур. Вось і нядаўна атрымалі выдатны сорт ячменю «візіт». Скрыжавалі свой «зазерскі» (ён, дарэчы, даў у нас па 70 цэнтнераў з гектара) і галандскі. Можна прыгадаць і «бярэзіну», «надзею», «сузор'е» — інтэнсіўныя сарты пшаніцы, якія вывелі беларускія вучоныя. Старыя сарты былі добрыя, але іх час прайшоў. Патрэбна новае. Вось «бярэзіна» на капсуліраваных угнаеннях летась дала на адным з нашых палёў па 90 цэнтнераў збожжа з гектара. Дарэчы, выкарыстанне новых капсуліраваных мінеральных угнаенняў прыносіць высокі эканамічны эфект. І што вельмі важна: не забруджваецца навакольная прырода.

Усе работы вядуцца ў гаспадарцы толькі па інтэнсіўных тэхналогіях. Вось і ўраджайнасць павысілася ў два разы. Жывёлу ў грамадскім статку надзейна забяспечылі кармамі.

*— Так, ад зямлі чалавек патрабуе многа. А як сам ставіцца да яе? Зараз нямала гаворыцца пра экалагічныя праблемы на Палессі.*

— Ведаем мы, безумоўна, і аб праблемах. Вось зусім нядаўна ў нашым калгасе, ды і ў іншых, праходзілі сустрэчы з беларускімі вучонымі, пісьменнікамі. Размова ішла якраз пра экалогію. Не буду казаць пра ўсіх, але ў «Перамозе» людзі ставяцца да прыроды, зямлі вельмі беражліва, любоўна. Мы значна скарацілі выкарыстанне атрутных рэчываў пры барацьбе з хваробамі раслін і шкоднікамі. Імкнёмся тут шырэй выкарыстоўваць біялагічна-бактэрыяльныя прэпараты, якія створаны ў мінскім інстытуце генетыкі. Між іншым, гэтымі сродкамі ўжо і ў Маскве зацікавіліся. Мінеральныя ўгнаенні ўносім наземным спосабам. Ад авіяцыі даўно адмовіліся.

У нас на адным з палёў жылі трынаццаць зайцоў і чарнабурая ліса. У час яго апрацоўкі яны, канечне, збеглі. Але калі работа скончылася, вярнуліся н[illegible]ейшае аблюбаванае месца. [illegible] на атручаным хіміяй полі такое магго б быць?

А вось яшчэ адзін нядаўні выпадак. Калгасны шафёр знайшоў закальцаваную птушку. Яна ў веснавую слоту, у снег змерзл[illegible]н яе адагрэў і адвёз у Тураўскі [illegible]аведнік. Аказалася, што птушка прыляцела да нас з Францыі. Ды і наогул, колькі разоў механізатары знаходзілі на палях у час работы птушыныя гнёзды. Заўсёды акуратна іх падымуць, а потым пакладуць на ранейшае месца.

*— А як праходзіла ў калгасе меліярацыя?*

— Зямля ў нас — цяжкі суглінак. У дождж— нагі не выцягнеш. Меліярацыя патрэбна была. Але калі яна праводзілася, людзі на месцы карэкціравалі: дзе патрэбны каналы, дрэнаж, а дзе — не. Іх меркаванні ўлічваліся.

*— Ніна Антонаўна, я гляджу, калгасная дэмакратыя ў вашых месцах — рэч рэальная...*

— Спадзяюся.

*— А што ж непакоіць, перашкаджае людзям жыць і працаваць, як найлепей?*

— Спадчына не заўсёды бывае добрая, на жаль. Вось, напрыклад, раўнадушша, абыякавасць. Памятаю, калі мы пачалі працаваць па інтэнсіўнай тэхналогіі, атрымалі першы выдатны вынік, колькі давялося паездзіць па гаспадарках, параcказваць, паагітаваць. Многія нібы спалі на рабоце. Нічога іх не цікавіла. Ёсць гэта і сёння.

Што яшчэ? Слабая забяспечанасць матэрыяльнымі рэсурсамі: тэхнікай, угнаеннямі. Іх трэба больш і значна лепшых. Вось зараз у калгасе працуе шмат моладзі. Грошы маем, а купіць ім новыя машыны, трактары не можам. Не забяспечваюцца нашы заяўкі. Гэта вельмі тармозіць справу.

А жаданне працаваць на зямлі ёсць. І, як я ўжо казала, у моладзі таксама. Так што мы глядзім ужо ў заўтра.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## *ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

# «ЗА ВАРОТАМІ ДА ЗЯЛЕН ВІНАГРАД...»

Сёння мы прыемна здзіўляемся сустрэчы з вінаграднай лазой, якая абвівае сцяну беларускай хаты. А між тым ёсць звесткі, што беларусам здаўна вядома культура вінаграду. Пацвярджэннем гэтаму можа служыць вусная паэтычная творчасць, якая грунтуецца на практычным жыццёвым вопыце. «Сад-вінаград» — шырока распаўсюджаны вобраз у беларускіх народных песнях, святочных і абрадавых, песнях-баладах. Самае цікавае, што змест некаторых песень адлюстроўвае вопыт асваення яго культуры.

Дзе садзіць вінаград? Гэтае пытанне хвалюе ўсіх пачынаючых вінаградараў.

**Зялёненькі вінаград,**
**Удаўся дзеўкам на пагляд,**
**Пайшлі дзеўкі глядзеці:**
**«А дзе ж цябе садзіці!**
**Ці ў гародзе па лясе,**
**Ці ў капуснай баразне!»**

У другой песні даецца зусім пэўны адказ: «А ў майго таткі сад над ракою, сад над ракою, над даліною». Сапраўды, як устаноўлена навукай і практыкай, вінаград лепш за ўсё садзіць на ўзвышаных месцах, на паўднёвых і заходніх схілах, ды і ля сцен будынкаў ён выдатна ўдаецца.

Ці выспявае вінаград у Беларусі? У песні ёсць пераканаўчае сведчанне гэтаму. «Пусці, татулька, у сад пагуляці. Ды я не буду вішань шчыпаці. Толькі вышчыкну вінаградачку, прынясу татачку на парадачку». І яшчэ:

**Да за варотамі да зялен вінаград,**
**Ясны вечар, да зялен вінаград.**
**Да хто ж таго вінаграду да сцярэгчы будзе!**
**Ясны вечар, да сцярэгчы будзе!**
**А сцярэгчы будзе да малады Толік,**
**Ясны вечар, да малады Толік.**

Калі ўзяць сённяшні дзень, то справы з вінаградам ідуць у нашай рэспубліцы такім чынам. У Беларускім навукова-даследчым інстытуце бульбаводства і агародніцтва ў выніку шматгадовых выпрабаванняў адабрана каля чатырох дзесяткаў сартоў вінаграду, якія штогод выспяваюць ва ўмовах Беларусі. Натуральна, што размова ідзе пра аматарскае развядзенне вінаграду. Што датычыць вырошчвання яго ў калгасах, саўгасах, падсобных гаспадарках, то для гэтай мэты трэба выкарыстаць плёначныя цяпліцы.

Якія ж сарты вінаграду лепшыя? А вось тут цяжка даць адназначны адказ. Справа не толькі ў смаку ці колеры ягад. Многае залежыць ад мясцовасці, цеплавых уласцівасцей участка, глебавых умоў... Таму адказ можна атрымаць толькі ў выніку свайго асабістага вопыту. З дапамогай інстытута арганізуецца вырошчванне саджанцаў вінаграду для садаводаў-аматараў у цэлым шэрагу гаспадарак рэспублікі. Тут прапануюць не толькі здаўна вядомыя сарты, як «маленгр ранні», «піно ранні», «жэмчуг сабо», «мадлен анжэвін», «шасла белая», але і новыя сарты, якія выведзены вядомымі савецкімі селекцыянерамі. Гэта перш за ўсё «касманаўт», «краса Поўначы», «паўночны ранні», «мускат данскі», «духмяны», «дзіцячы ранні», «народны», «ліпеньскі», «асобы», «фестывальны», «багатырскі» і многія іншыя.

Выведзены і цэлы шэраг сартоў для альтанкавай культуры і азелянення. Гэтыя сарты ва ўмовах Беларусі могуць зімаваць без укрыцця і даваць ураджай для ўжывання ў свежым выглядзе ці для хатніх загатовак.

**Рамуальд ЛОЙКА,**
**кандыдат біялагічных навук.**

# *РЭКАНСТРУЮЕЦЦА ПОМНІК ПЕРАМОГІ*

На адной з самых прыгожых плошчаў Мінска — плошчы Перамогі — пачата рэканструкцыя.

Помнік Перамогі пабудаваны ў 1953 годзе па праекту архітэктара Заборскага. Час, на жаль, зрабіў сваю справу. Маналітны жалезабетонны ствол помніка абкладзены гранітнымі плітамі. На іх з'явіліся рагі ад дажджоў. Трэба праверыць на трываласць мацаванне пліт. Рэстаўрацыя патрабуецца і ордэну Перамогі, які ўвенчвае помнік. Смальтавы ўзор там-сям адстаў. Таму помнік будзе акружаны рыштаваннямі. Неабходна ўмацаваць і фундамент.

Па праектных дакументах, пасля вайны ў грунт на плошчы трапіла шмат драўняных рэштак, ён стаў нетрывалым. Вакол помніка будуць убіты буранабіўныя палі. Рэканструкцыю плануецца закончыць сёлета да Кастрычніцкіх свят.

*ПЕРЕСТРОЙКА И ОБЩЕСТВЕННО-ПОЛИТИЧЕСКАЯ ЖИЗНЬ*

# ПЛЮРАЛИЗМ ПО-СОЦИАЛИСТИЧЕСКИ

Не ТАК давно еще слово «плюрализм», едва оно наполнялось мало-мальски политическим содержанием, подвергалось в СССР гонению. Времена переменились, и теперь понятие «плюрализм» воспринимается спокойно, а дополненное определением «социалистический» и вовсе с поддержкой и похвалой.

Что случилось? Стоит разобраться, причем посерьезнее и повнимательнее — во избежание двух нередко допускаемых ошибок. Одной, которая сводит дело не более чем к словесной новации. И другой, которая связывает обогащение терминологии с чересчур далеко идущими общественно-политическими последствиями.

Но сначала немного лингвистики. «Плюрализм» — слово для русского языка заимствованное. Мы и собственной речью, без иностранных примесей, можем исчерпывающе передать его смысл во всех вообразимых оттенках. Да так и поступали годами, даже десятилетиями. Говорили о множественности личностных, социальных и национальных интересов, которыми живет советский народ. И указывали на различия, а то и столкновения всякого рода групповых устремлений и пристрастий, на необходимость их гармонизации. Часто и без обиняков упор делался на то, что поступательное движение советского общества обязательно предполагает растущее многообразие существующих в нем различных интересов.

Короче, плюрализм, только именуемый иначе, строго по-русски, не был полным изгоем в нашем общественно-политическом сознании.

Тем не менее неверно было бы утверждать, что перестройка добавила ко всему этому не более чем снисходительное отношение к импортному слову. В действительности эта добавка по-своему и знаменательна, и содержательна. Значение ее представляется двояким.

Во-первых, она относится к числу тех сдвигов, которые в совокупности образуют разрушение стереотипного, догматического мышления. Это разрыв с казенщиной, шаблонной мыслью, которая всегда держится за неподвижные формулы и соответственно вводит свои табу не только на непривычные идеи, но и на слова. С этой точки зрения нынешнее свободное обращение слова «плюрализм» в обиходном и политическом языке весьма показательно. Это частный, но по-своему красноречивый признак быстро идущего раскрепощения общественной мысли.

Во-вторых, что, конечно, более существенно, приращение термина «плюрализм» к знакомому ряду слов, выражающих те же или родственные понятия, как бы поднимает их общий ранг на широко признаваемой шкале ценностей. Да, у нас и прежде понималось и говорилось, что не все под одну гребенку чесаны. Однако речи речами, а практического внимания к различиям интересов, к их удовлетворению, согласованию и использованию на благо общества явно недоставало.

Именно в этом плане перестройка и принесла с собой ощутимый поворот. Учитывать реальное многооб[illegible]е интересов, считаться с ними, управлять ими и с их помощью — так поставлен вопрос сегодня.

Кто знаком с сегодняшними публикациями в советской печати, с бурлящей жизнью в мире искусств, тот, видимо, должен признать, что плюрализма здесь по любым меркам хватает с лихвой. Если иметь в виду такие его внешние признаки, как множественность кандидатов на выборах, то эти признаки тоже уверенно входят в жизнь и в партии, и в избирательной системе страны, и в формировании органов управления на производстве.

В общем, социалистический плюрализм растет, расцветает.

Не оставьте, однако, без внимания поставленное здесь прилагательное «социалистический». Оно несет большую политическую нагрузку. Ту именно, которая предупреждает от второй из упомянутых выше ошибок, от распространившейся кое-где на Западе ожиданий, что внутренняя логика плюрализма ведет к подрыву, а то и полному устранению руководящей роли КПСС в советском обществе.

Проблему, которая тут, несомненно, есть, иной раз представляют чрезвычайно грубым образом. Либо, мол, плюрализм — и тогда многопартийность. Либо КПСС остается единственной политической партией в стране — и тогда о плюрализме нечего разговаривать.

Советским людям такой оборот мысли хорошо знаком не только по тому, что пишут на Западе. Знаком он и по более близкому, собственному опыту, по недавним рассуждениям своих, доморощенных догматиков, которые не признавали и тени плюрализма... ну, скажем, в США. О каком, дескать, плюрализме может идти речь, если только две партии посменно и в сущности гарантированно стоят у власти? Учитывая, что перемена партийных символов—«осла» на «слона» или наоборот — нисколько не нарушает общей сущности экономического строя и политического режима, любые тамошние претензии на плюрализм—сплошной обман. На худой конец нечто вроде дуализма, но уж никак не плюрализм...

Указание на социалистический характер нашего плюрализма само по себе не содержит никакого отрицания многопартийности. Есть в конце концов и международный опыт, значительно, кстати, раздвигающий рамки социалистического плюрализма и показывающий, что это понятие вполне совместимо с сосуществованием и сотрудничеством нескольких партий.

Но речь идет о СССР, о его политической системе. Происходит ли здесь взаимоотторжение двух якобы противоположных начал — единовластия КПСС и плюрализма? По умозрительной схеме такое должно было бы ощущаться на каждо[illegible]гу. В жизни нет ничего п[illegible]ного. А потому нет, что отныне партия видит свою стратегически важную задачу не в подавлении, не в урезании этого самого плюрализма, а, наоборот, во всемерной его поддержке и развитии.

Иначе, собственно, теряет смысл всеподчиняющая цель, поставленная партией на сегодня, на завтра и на послезавтра, — раскрывать **все** созидательные возможности социализма. На практике движение к этой цели идет через глубокую демократизацию общественной жизни, радикальную экономическую реформу, которые естественным образом умножают плюрализм народных инициатив, групповых и личностных самовыражений.

Заключен ли в таком развитии событий вызов партии как руководящей политической организации? Конечно. В том смысле, что от нее требуется несравненно более высокий, чем прежде, уровень и понимания растущего многообразия самостоятельного творчества масс, и умения согласовывать проявляющиеся в этой обстановке различные интересы, и компетентности в самом трудном деле — эффективного их использования во имя всестороннего прогресса социализма. В практической деятельности партии все это укрепляет и возвышает именно то, что называется **политическим руководством** (в отличие от управленческого администрирования).

Что же означает в итоге растущий в СССР плюрализм? Для рядового человека больше возможностей проявить себя, для народа — более полное удовлетворение его многообразных запросов и потребностей, для партии — больше работы и ответственности, для общества в целом — больше социализма.

**Лев СТЕПАНОВ.**
(АПН).

ДОГМАТИЗМ И РАЗВИТИЕ СОВЕТСКОГО ОБЩЕСТВА

# ОТ ВЕРЫ К ЗНАНИЮ

В Москве и окрестностях, как, впрочем, и в местностях, более отдаленных от столицы, готовятся отметить большой праздник. Тысячелетие крещения Руси — такое действительно бывает раз в тысячу лет!

Десять веков назад князь Владимир загнал тогдашних киевлян в днепровские воды, и выбрались они на берег уже обращенными в новую веру. Вчерашнее их божество, одновременно грозный и милостивый Перун, был низвергнут. Низвергнут настолько, насколько это было в княжеской власти. Изображения языческого идола, выполненные в дереве или иных подходящих материалах, были уничтожены более или менее быстро. Века, однако, прошли, прежде чем выветрились из народного сознания связанные с ним поверья. И то не до конца. Отголоски их по сей день живы в иных национальных обычаях и ритуалах. Но, в общем-то, Русь стала с тех пор христианской, православной.

По случаю предстоящего тысячелетия наблюдается некоторая живость в обмене мнениями насчет того, хорошо это было для судеб страны или плохо. Церковники, естественно, не колеблясь, утверждают, что хорошо. У людей светского образа мысли, особенно у ученых, находятся к тому весомые поправки и оговорки.

Одна из таких оговорок: все-таки много дурману нагнала церковь в головы православного народа. Правда, и по этому поводу есть разногласия. Одни считают, что православие прочно владело на Руси всеми умами, в том числе великими (Достоевский!). Другие советуют не преувеличивать. Хотя бы потому, что в конце концов большевики, получившие в революцию широчайшую народную поддержку, были закоренелыми безбожниками, да еще воинствующими.

Большевики-безбожники, взяв власть в стране, повели решительную борьбу за то, чтобы очистить общественное сознание от религиозных предрассудков, мифов и догм, чтобы сомкнуть его с научным мировосприятием. Многие сегодня, и не только верующие, осуждающе вспоминают, какими жестокими способами велась порой эта борьба в 20-е и 30-е годы. Каждый волен, конечно, задним числом оплакивать разрушенные церкви или мечети и порицать весьма нелaсковое обращение с иными служителями культа. Отвлеченное морализирование на эти темы изрядно мешает, однако, и знанию, и пониманию того, что происходило в действительности и как происходило.

Во-первых, в несчетном числе случаев срабатывало простое правило «на войне, как на войне». Под рясой часто скрывался обрез — иной раз и в буквальном смысле слова, а уж в переносном тем более. Так что Советская власть зачастую имела дело с активной контрреволюцией.

Во-вторых, в борьбе с религией главным направлением была все-таки просветительная работа, именуемая атеистической пропагандой. Если же посмотреть на вещи шире, то решающую роль в преодолении религиозных предрассудков сыграли ликвидация неграмотности, довольно быстрое превращение советских людей в народ образованный, читающий.

В-третьих... Вот «в-третьих» — это, пожалуй, самое существенное и самое противоречивое. Дело в том, что религия может быть уподоблена некоему производству, имеющему свой конечный продукт и свою технологию. Продукт — это содержание того или иного вероучения. Технология — это способ, каким вера внедряется в умы. От «продукта» советское общество так или иначе освободилось. То есть практически в основном освободилось — и в весьма сжатые сроки. Что же касается «технологии», то она не только долгое время сохранялась, но и по-своему совершенствовалась, приспосабливалась для «производства» в коренным образом изменившихся социально-политических условиях.

Парадокс, но факт, что идеи марксизма-ленинизма, учения насквозь критичного и чуждого всякому застою по своей сути, усваивались массами преимущественно как недвижимые [illegible]маты новой веры. Учебники, лектор[illegible] [illegible]сшие авторитеты научной и полит[illegible]ской мысли твердили о диалектике, об отражении объективных реальностей, о непрерывном творческом развитии теории. Но в миллионах голов удерживался только набор простейших, законченных, неподвижных формул — вместе с явным запретом на самостоятельное их обдумывание, тем более на сомнения относительно их истинности.

Конечно, это было прямым результатом идеологической работы, подчиненной упрочению культа Сталина. Но где тут курица, где яйцо? К поклонению новому богочеловеку люди могли прийти только через веру, никак не через научное мировосприятие. Значит, нужна была особо благоприятная почва, чтобы эта вера могла произрастать и крепнуть, тем более в условиях, когда на все лады превозносилась именно научная теория, пронизанная критическим духом диалектики. И такая почва была. Ее в достатке намывало еще религиозное все-таки в основе своей сознание крестьянского, то есть подавляющего большинства населения.

Кстати, поначалу — и долго — даже атеизм был для многих не сокрушением веры, а всего лишь новой верой. И этим не в последнюю очередь объясняется, почему столько излишнего, по нынешним меркам, рвения, столько неуемного фанатизма вкладывали пошедшие за большевиками люди, особенно молодежь, в разрушение колоколен и преследование попов.

Когда христиане воюют с мусульманами, протестанты с католиками, сунниты с шиитами, ни одно вероучение не рушится. Религиозное сознание не шатается. Оно, наоборот, закаляется и становится тверже.

Нечто наподобие этого имело место и в истории советского общества. Догматизм, предпочтение вере перед знанием изрядно загрязнили его вполне светскую идеологию. Появились свои иконостасы и святцы.

Преувеличивать, разумеется, не надо. Было это, но было и другое. Рос образовательный уровень народа, росла его культура. Вся корневая система религиозности стала усыхать — и необратимо. Неминуемые следствия состояли в том, что к религии как таковой общество стало относиться намного терпимее, зато к пережиткам или признакам религиозности в собственной, коммунистической идеологии — все более непримиримо.

Все это имеет самое непосредственное отношение к злобе дня — перестройке. В немалой степени она была подготовлена развитием общественного сознания, возросшей зрелостью, избавлением от догм, самораскрепощением теоретической и политической мысли партии. В последние три года эти сдвиги, прежде подспудные, стали живой очевидностью и стремительно набирают силу. Привычным уже делается исходить из заключений собственного ума, а не из канонизированных представлений.

Не обходится, впрочем, без откатов к прошлому, к старым приемам иконоборчества. Взять, скажем, доброе дело восстановления в правах имен, которые незаслуженно вычеркивались из памяти народной, или преданных забвению литературных трудов, творений искусства. Николай Бухарин, его политическая биография и теоретические работы, стихи Н. Гумилева, повести В. Набокова, написанные автором-эмигрантом на чужбине, и роман Е. Замятина «Мы», созданный на родине, — все это штрихи большой картины происходящего возрождения из небытия. Но... Опять «но», потому что порой получается так, что все это служит не обогащению нашей культуры и расширению знаний, а как бы сотворению новых кумиров на месте прежних.

Трагически оборвавшаяся жизнь Н. Бухарина была сложной и достойной большого уважения. Но вот уже стали пробиваться нотки его неуемного восхваления. Отдается, стало быть, дань прошлому; не до конца изжита тяга к идолопоклонству.

Перестройка имеет своим содержанием переход от одного состояния общества к другому. Постоянно возникает потребность уточнять, от какого и к какому именно. Применительно к разбираемой теме ответ предельно ясен: от доктринерства к свободному развитию мысли, от слепой веры к самостоятельно добытому знанию. К тому, в частности, и направлены демократизация общества, развитие социалистического плюрализма. На этом пути предстоят новые крупные шаги. Они предопределены повесткой дня собирающейся в конце июня Всесоюзной партконференции.

**Василий ДЕМИДОВ.**
(АПН).

